# Голас Радзімы

№ 17 (2107)
27 красавіка 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





Маладая прыгожая жанчына, якую вы бачыце на здымку, займае некалькі нечаканую пасаду. Наталля ЛЕМЕШАВА — старшыня аднаго з лепшых калгасаў на Віцебшчыне. Быць сучасным дбайным гаспадаром — справа не з лёгкіх, тым больш, калі нясеш адказнасць не толькі за сябе, але і за дабрабыт сотнь людзей. Але абаяльная старшыня з «Кіраўскага» з гэтым паспяхова спраўляецца. Артыкул «Вясна Наталлі Лемешавай» і заканчэнне фотарэпартажу змешчаны на 3-й стар.

Фота С. КРЫЦКАГА.

АДБЫЛІСЯ ЎРАЧЫСТАСЦІ

## ЛЕНІНСКАЯ ГАДАВІНА

У памяці народаў ёсць даты, знамянальныя для ўсяго чалавецтва. 22 красавіка звяртае людзей планеты да вялікага мысліцеля і рэвалюцыянера Уладзіміра Ільіча Леніна, чалавека, які і словам і справай аказаў велізарнае ўздзеянне на ход сусветнай гісторыі.

Час непазбежна накладвае адбітак на кожную ленінскую гадавіну. Сёння яна адзначаецца ва ўмовах перабудовы—галоўнай справы народа на цяперашнім этапе развіцця нашай краіны. Маштабы і глыбіня пераўтварэнняў, вастрыня і складанасць паўстаўшых праблем абавязваюць яшчэ раз звярнуцца да Леніна, дзейнічаючы ў духу яго запаветаў.

21 красавіка ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў адбыўся ўрачысты сход прадстаўнікоў працоўных горада Масквы, прысвечаны 119-й гадавіне з дня нараджэння У. І. Леніна. У ім прыняў ўдзел М. С. Гарбачоў, іншыя кіраўнікі краіны.

Урачысты сход адбыўся таксама ў сталіцы Беларусі Мінску. З дакладам аб 119-й гадавіне з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна выступіў Старшыня Савета Міністраў БССР М. Кавалёў. Ён, у прыватнасці, адзначыў: «Ва ўмовах перабудовы, дэмакратызацыі, стварэння прававой дзяржавы асаблівую актуальнасць набылі задачы развіцця міжнацыянальных адносін. За гады Савецкай улады ў гэтай галіне многа зроблена становучага. Жыццё пераканаўча пацвердзіла правату ідэй У. І. Леніна — аб'яднанне намаганняў дазволіла кожнай нацыі і грамадству ў цэлым рэзка паскорыць свой рух па шляху прагрэсу.

Аднак на нейкім этапе мы палічылі, што ўсе нацыянальныя праблемы ўжо вырашаны, а гэта, вядома, не так. У жыцці ўсё значна складаней.

Мы павінны беражліва захоўваць усё каштоўнае, станоўчае, што было дасягнута намі ў галіне нацыянальнага будаўніцтва, і ліквідаваць дапушчаныя перакосы і недахопы». Дакладчык асабліва падкрэсліў: родная мова—наша найвялікшае багацце. Мы павінны берагчы яго і развіваць. Дэфармацыі, дапушчаныя ў справе вывучэння беларускай мовы, нам неабходна выпраўляць больш энергічна.

Звыш пяці мільёнаў жыхароў рэспублікі выйшлі на камуністычны суботнік, прысвечаны 119-й гадавіне з дня нараджэння У. І. Леніна.

Паводле папярэдніх падлікаў, у рэспубліканскі фонд працоўныя Беларусі пералічаць не менш як 14 мільёнаў рублёў. На заробленыя сродкі будуць пабудаваны бальніцы, дзіцячыя сады, школы ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях, якія пацярпелі ад Чарнобыльскай аварыі.

СУСТРЭЧА

## У ГОНАР ДНЯ ВЫЗВАЛЕННЯ

Сорак чацвёртай гадавіне Дагавора аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе паміж СССР і Польскай Народнай Рэспублікай, другой гадавіне Дэкларацыі аб савецка-польскім супрацоўніцтве ў галіне ідэалогіі, навукі і культуры, а таксама Дням культуры ПНР у БССР была прысвечана прэс-канферэнцыя, якая прайшла ў генеральным консульстве ПНР у Мінску.

Адкрываючы яе, генеральны консул М. Абязінські падкрэсліў, што дагавор, падпісаны саюзнікамі па барацьбе з агульным ворагам напярэдадні вялікай перамогі над фашызмам, мае велізарнае гістарычнае значэнне для станаўлення прынцыпова новых адносін паміж народнай Польшчай і СССР. Прыклад гэтага — пастаянна мацнеючыя сувязі ПНР і БССР ва ўсіх сферах сацыяльна-эканамічнага жыцця двух брацкіх народаў.

Консул С. Апала інфармаваў прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі аб развіцці прамых сувязей прадпрыемстваў, арганізацый, абласцей Беларусі з польскімі партнёрамі. Намеснік міністра культуры БССР У. Рылатка паведаміў удзельнікам аб падрыхтоўцы другога фестывалю польскай песні ў Віцебску. Правесці яго намечана ў 1990 годзе.

У ходзе прэс-канферэнцыі журналісты газеты «Трыбуна люду» і часопіса «Нова весь» расказалі сваім беларускім калегам аб сённяшняй Польшчы.

ВІЗІТЫ

## АЎСТРЫЙСКІЯ КАМУНІСТЫ Ў МІНСКУ

У Мінску знаходзілася дэлегацыя зямельнай арганізацыі КПА Ніжняй Аўстрыі, якая прыбыла ў рэспубліку па запрашэнню ЦК Кампартыі Беларусі. Яе ўзначальваў член ЦК КПА Р. Рамзнер.

Дэлегацыю прыняў сакратар ЦК КПБ У. Ляпёшкін. Ён азнаёміў аўстрыйскіх камуністаў з тым, як у Беларусі вырашаюцца праблемы гаспадарчага і сацыяльнага будаўніцтва. Адбылася зацікаўленая размова ў Міністэрстве сацыяльнага забеспячэння БССР, у Рэспубліканскім савеце ветэранаў вайны і працы. Госці наведалі Дом-музей I з'езда РСДРП, пабывалі на Мінскім гадзіннікавым заводзе, сустрэліся з актывістамі Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі. Яны зрабілі экскурсію па гораду і паездку на мемарыяльны комплекс «Хатынь», да Вечнага агню якога ўсклалі кветкі.

У праграме знаходжання дэлегацыі было знаёмства з саўгасам-агафірмай «Ждановічы», агляд экспазіцыі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

ДЛЯ БЕЛАРУСКАГА МУЗЕЯ

## РАХУНАК № 141713

Беларускае таварыства «Радзіма» адкрыла ў рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска бягучы рахунак № 141713 для збору добраахвотных ахвяраванняў у фонд будаўніцтва Беларускага музея ў Гайнаўцы (ПНР).

Як мы не раз паведамлялі, Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы будуе ў Гайнаўцы, на Беласточчыне, этнаграфічны музей. Справа гэта датычыць не толькі беларускай меншасці ў ПНР, але і ўсіх нас, дзе б мы ні жылі, бо музей гэты можа стаць не толькі рэгіянальным, а і агульнанацыянальным асяродкам гісторыі і культуры.

У фонд дапамогі будаўніцтву музея ўжо даўно ідуць ахвяраванні з усіх куткоў, дзе толькі ёсць беларусы. Свой значны ўклад зрабілі нашы замежныя суайчыннікі з Канады, ЗША, Аўстраліі, краін Еўропы. Паасобныя ўзносы паступаюць на адрас Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку і з нашай рэспублікі.

Цяпер уся грашовая дапамога з Беларусі, спадзяёмся, будзе канцэнтравацца на рахунку № 141713. Ахвяраванні на яго могуць пералічваць як прадпрыемствы, арганізацыі, установы, так і паасобныя грамадзяне. Карацей кажучы, кожны, хто адчувае патрэбу зрабіць патрыятычны ўчынак.

Сродкі з гэтага рахунка Беларускае таварыства «Радзіма» перадасць грамадскаму камітэту пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы.

НАВУКОВЫЯ РАСПРАЦОЎКІ

## ЗАМЕНА ЗОЛАТУ

Звыш 200 тысяч рублёў будуць штогод эканоміць дзяржаве майстры вытворчага аб'яднання «Мінскі гадзіннікавы завод», якія ўкаранілі навінку спецыялістаў Навукова-даследчага іституту фізіка-хімічных праблем Белдзяржуніверсітэта імя Леніна.

Цяпер пячатныя платы ў серыйных міні-будзільніках пакрываюцца не золатам, як раней, а спецыяльным нікель-борным саставам.

Новая тэхналогія не толькі значна знізіць кошт вырабу, але і палепшыць яго спажывецкія якасці, павысіць надзейнасць электроннага блока.

ДЛЯ ГОРНЫХ ДАРОГ

## ПЕРАШКОД НЯМА

Знешне 120-тонны самазвал маркі «БелАЗ», які прызначаны для работы ва ўмовах высакагор'я, нічым не адрозніваецца ад сваіх сабратоў такой жа грузападымальнасці.

Але на горных дарогах, паводле расказаў вадзіцеляў-выпрабавальнікаў, адрозненне адчуваецца адразу ж. Там, дзе звычайны 120-тонны аўтамабіль, які падымаецца ў гару, пачынае «задыхацца», для новага няма перашкод. Яго стальное «сэрца» працуе рытмічна і дакладна.

Рухавік, разлічаны на складаныя ўмовы высакагор'я, вырабілі для гэтай мадыфікацыі «БелАЗа» на Уральскім турбаматорным заводзе. Спецыяльныя датчыкі апаратыўна перадаюць усю інфармацыю аб яго рабоце вадзіцелям.

Зараз такія «БелАЗы» праходзяць абкатку на дарогах Паўночнага Каўказа.

МАДЭРНІЗАЦЫЯ ВЫТВОРЧАСЦІ



**Мадэрнізуюцца прадпрыемствы харчовай прамысловасці рэспублікі. Высокапрадукцыйная лінія па вытворчасці ірысу ўведзена ў дзеянне на Івянецкай кандытарскай фабрыцы ў Валожынскім раёне. Сёлета яна дасць 500 тон прадукцыі.**
**НА ЗДЫМКУ: лінію абслугоўвае фармоўшчыца Рэгіна РЫДЗЕЎСКАЯ.**

ПЕРШЫ РЭЙС




**Пятнаццатага красавіка пачаўся рэгулярны аўтобусны рух паміж Мінскам і Варшавай. Першым з мінскага аўтавакзала «Усходні» адправіўся ў рэйс у Польшчу вадзіцель першага класа Іван Васілевіч.**
**НА ЗДЫМКУ: Іван ВАСІЛЕВІЧ перад паездкай.**

АФІЦЫЙНЫ КАМЕНТАРЫЙ

## ПРАГРАМА АЗДАРАЎЛЕННЯ

Прынята рэспубліканская дзяржаўная праграма дыферэнцыраванага аздараўлення ў 1989 годзе маці з дзецьмі ва ўзросце да 6 гадоў, дзяцей школьнага ўзросту ад 6 да 14 гадоў, падлеткаў і дарослых, якія пражываюць у кантралюемых зонах радыеактыўнага забруджання Гомельскай і Магілёўскай абласцей.

Старшыня Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў У. ГАНЧАРЫК пракаменціраваў гэта рашэнне:

— Работа Белсаўпрофа па аздараўленню працоўных і іх дзяцей арганізуецца з улікам рэкамендацый органаў аховы здароўя. Для гэтага штогод выдзяляецца значная колькасць месцаў у здраўніцах рэспублікі і за яе межамі. У сёлетнім сезоне паправіць сваё здароўе змогуць 82,9 тысячы чалавек, якія пражываюць у зонах радыеактыўнага забруджання. 57,2 тысячы з іх — гэта дзеці ва ўзросце да 14 гадоў. Трэба адзначыць, што пуцёвак сёлета выдзяляецца значна больш, чым летась.

15 здраўніц рэспублікі, цэлы рад санаторыяў за яе межамі, пачынаючы з мая, змогуць прыняць маці з дзецьмі ва ўзросце да 6 гадоў, прычым па бясплатных пуцёўках. Калі ў дарослых, якія выязджаюць на адпачынак разам з дзецьмі ўказанага ўзросту, водпуск меншы за 24 дні, а менавіта такі тэрмін Міністэрства аховы здароўя БССР устанавіла для знаходжання ў аздараўленчых установах, то ім прадастаўляецца дадатковы водпуск без забеспячэння і аказваецца матэрыяльная падтрымка за кошт сродкаў Таварыства Чырвонага Крыжа БССР. Аздараўленне цяжарных жанчын праводзіцца на працягу года ў спецыялізаваным аддзяленні санаторыя «Беларусь» у Ждановічах. Бясплатна.

Школьнікі ва ўзросце да 14 гадоў змогуць адпачыць на працягу 45 дзён у рэспубліканскіх дзіцячых санаторыях «Пралеска», «Сонейка», «Нёман» і іншых, у санаторных піянерскіх лагерах курортаў Анапы, Малдавіі, Башкірыі. Ва ўсіх загарадных піянерскіх лагерах арганізуюцца санаторныя змены тэрмінам 30 дзён з узмоцненым харчаваннем, лячэбнымі працэдурамі для школьнікаў з пацярпеўшых раёнаў. Аздараўленне 4,3 тысячы падлеткаў і навучэнцаў прафесійна-тэхнічных вучылішчаў будзе ажыццяўляцца ў лагерах працы і адпачынку, санаторыях курортаў Адэскай вобласці.

Дарослае насельніцтва, у асноўным з сельскай мясцовасці, таксама плануецца аздараўляць у санаторыях, пансіянатах і Дамах адпачынку рэспублікі і краіны.

Але пакуль пуцёвак не хапае. Таму мы звярнуліся ў ВЦСПС з просьбай выдзеліць дадатковыя пуцёўкі на 1990 год і наступныя гады трынаццатай пяцігодкі, ажыццявіць у цэнтралізаваным парадку будаўніцтва санаторна-курортных установ для выкарыстання іх толькі ў мэтах аздараўлення працоўных, якія падвяргаюцца радыеактыўнаму ўздзеянню. Магу паведаміць, што аказана садзейнічанне ў выдзяленні зямельных участкаў пад будаўніцтва такіх здраўніц на курортах Анапы, Краснадарскага краю, Трускаўца, Крыма і Каўказа. Узводзіцца яны будуць за кошт кааперавання сродкаў прадпрыемстваў Гомельскай і Магілёўскай абласцей, а таксама сродкаў прафсаюзаў.

*ТРЫВОГІ І НАДЗЕІ СТАРШЫНІ КАЛГАСА*

— Мая любімая пара года? Вядома ж вясна!— голас Наталлі Лемешавай цёплы, сапраўды вясновы. Яна расказвае мне пра свае пачуцці. Атрымліваецца натхнёна, нават паэтычна. І каму, як не ёй, жанчыне, найбольш зразумелыя таямніцы ўзнікнення нопрэстыж, аблягчыць працу, зрабіць дасягальнымі для яе ўсе матэрыяльныя і духоўныя каштоўнасці.

Вось і паставіла ў сваёй перадвыбарчай платформе галоўным пунктам абарону інтарэсаў сельскай жанчыны. Не пасаромелася выказаць і сца пяціпудовыя мяхі, спрытна ўпраўляецца з пілой і сякерай. Ды і ці мала яшчэ ляжыць на слабых жаночых плячах?! Можна бясконца пакланяцца ідэалу жанчыны, якая і косіць, і сее, і арэ...

У яе зусім іншае ўяўленне аб ідэале вясковай жанчыны.



# ВЯСНА НАТАЛЛІ ЛЕМЕШАВАЙ

вага ў прыродзе, у жыцці? Наталля Васільеўна і сама маці. Можа, таму і вясну вітае ў вобразе ўсемагутнай маці-прыроды...

Пасля такой характарыстыкі нехта можа западозрыць Лемешаву ў легкадумнасці, празмернай рамантычнай узнёсласці. А яна ж не проста жанчына, а старшыня калгаса. На такой пасадзе асабліва не да лірыкі. Тут трэба больш строгасці, а часам і суровасці, якасцей дзелавога чалавека. Як жа ў яе спалучаюцца такія супрацьлеглыя рысы?

— Вось так і спалучаюцца! — смяецца Лемешава, ды так абаяльна і непасрэдна, што міжволі хочацца падтрымаць яе.— Такое ўжо жыццё, што трэба ў ім быць надзвычай гібкай. А жанчыне, на якой бы пасадзе яна ні знаходзілася, не варта забываць і аб тым, што яна ўсё-такі жанчына...

Але літаральна на вачах Наталля Васільеўна пераўвасабляецца ў дзелавую асобу, якая проста і даходліва апавядае аб вельмі складаных працэсах перабудовы, удасканаленні гаспадарчага механізма ў аграпроме. Тут жа аддае распараджэнні па тэлефоне, падпісвае бухгалтарскія паперы, сама некаму адказвае на тэлефонныя званкі...

Старшыня калгаса Н. Лемешава — член прэзідыума Віцебскага абласнога Савета жанчын, удзельніца пленума Камітэта савецкіх жанчын, дзе яе вылучылі кандыдатам у народныя дэпутаты СССР, а крыху пазней і абралі дэпутатам. Выступаючы са сваёй перадвыбарчай праграмай, Наталля Лемешава на знешні эфект не разлічвала. У наш час людзі вельмі чуйныя да праяўлення любога фальшу.

Адразу ж раскусяць і адздзеляць шчырасць ад салодкага падману. А ў гэтай аўдыторыі тым больш: тут знаходзіліся прадстаўніцы ўсіх нацыянальнасцей краіны. Але знайшла Наталля Васільеўна патрэбныя словы, каб вызначыць тыя праблемы, якія закранаюць усіх. Гаварыла яна пра месца і лёс жанчыны-сялянкі. Пра тое, як узняць яе набалелае. Хіба гэта парадак, што па краіне толькі пяць працэнтаў даярак працуюць паўнацэнна ў дзве змены? Іншыя ж цягнуць ненарміраваны і цяжкі воз адназменкі. Вельмі часта нават без выхадных дзён. А вось у калгасе імя Кірава Віцебскага раёна, якім яна кіруе, з такой адмоўнай з'явай даўно развіталіся. Тут усе жанчыны працуюць у дзве змены, маюць



магчымасць планаваць асабісты час.

А хіба нармальна, абураецца Лемешава, што хатняя праца вясковых жанчын застаецца своеасаблівым анахранізмам? Многія неадназразова назіралі, як сельскі «прыгожы пол» цягае дровы з лесу, перакідвае з месца на месца...

Лемешава змагаецца за тое, каб праца і ў вёсцы была максімальна лёгкай і нарміраванай. Каб нароўні з гараджанкамі сялянкі мелі розных механічных і электронных памочнікаў. Каб у іх быў час і бровы падмаляваць, і тэатр наведаць, і добры раман прачытаць. А для гэтага патрэбны дамы з усімі зручнасцямі.

Прыкладам таму зноў яе калгас імя Кірава. Цяпер грамадскі жылы фонд дасягнуў тут 210 кватэр. Будуюць у гаспадарцы шмат. Падобныя тэмпы трымаюць зусім не ад залішніх грошай. Проста праўленне калгаса ніколі не забывае, што гаспадарка амаль зліваецца з абласным цэнтрам. І калі не стварыць для людзей умовы не горшыя, а нечым і лепшыя за гарадскія, то іх у вёсцы не затрымаць.

Таму будаўніцтва ідзе з выдумкай, выкарыстоўваюцца самыя розныя стылі і праекты. Асаблівая гордасць калгаснікаў — пабудовы, якія тут называюць церамамі. Паступова з'яўляцца вадасховішча, парк з атракцыёнамі, гандлёвы цэнтр, спартыўны комплекс...

З неаслабнай настойлівасцю змагаецца Наталля Васільеўна за аблягчэнне долі жанчын-ветэранаў, жанчын-пенсіянерак. Ім сёння намнога цяжэй у вёсцы, чым маладым. Кожны дзень трэба не проста ў печы выпаліць, але і дровы для гэтага мець. Старасць горкая часцей за ўсё таму, што яна адзінокая: дзеці далёка, бывае, што і дапамогі ад іх аніякай. Таму ў калгасе імя Кірава задумалі пабудаваць Дом ветэранаў. Ужо і месца вызначылі — у вёсцы Хоцінічы. Будзе ён з зімовым садам, рускай і фінскай лазнямі, з гасцініцай для прыязджаючых здалёк дзяцей і сваякоў. Прадугледжваюцца ўсе камунальныя зручнасці. Пакоі разлічаны на пражыванне аднаго-двух старых.

І яшчэ адзін вельмі важны момант. Абавязкова будзе пры доме ветэранаў невялікі участак зямлі з цяпліцай і агародам. Няхай сабе дзяды і бабулі ў меру сіл корпаюцца на градках. Праца — у любым узросце першае лякарства. А чалавека ў гадах яна яшчэ і ад маркотных думак адцягвае, дапамагае адчуць сваю паўнацэннасць.

Не абыдзены ўвагай і будучыя маці. Для палёгкі ім летась у калгасе ўведзены ў дзеянне адразу чатыры падсобныя промыслы. Тры з іх поўнасцю жаночыя. І толькі ў цэху разьбы па дрэву працуюць мужчыны. Дарэчы, за мінулы год падсобныя промыслы прынеслі калгасу каля 300 тысяч рублёў прыбытку.

Лемешава лічыць, што галоўнае, можа, і не ў грошах. Куды важней, што вырашана праблема занятасці жанчын.

На дасягнутым у гаспадарцы не спыняюцца. Летась чысты прыбытак ад усіх сродкаў гаспадарання склаў 1 мільён 200 тысяч рублёў. У хуткім часе такую суму будуць даваць толькі адны падсобныя промыслы. Амаладзілася насельніцтва: ужо цяпер трэць працуючых — гэта моладзь да 30 гадоў. Давялося нават адкрыць яшчэ адзін дзіцячы садзік — гэта добрая прыкмета. Цяпер у дашкольных установах калгаса выхоўваюцца восем дзесяткаў малышоў. І яшчэ папаўненне чакаецца.

Калі надарыцца вольны вечар, ідзе старшыня на рэпетыцыю калгаснага хору. Кіраўскі хор мае нават званне народнага. Голас Наталлі Васільеўны гучыць у ім ужо добрых паўтара дзесятка гадоў. Не заўсёды, праўда, старшыні калгаса выпадае трапіць на чарговую рэпетыцыю. Справ вунь колькі! Паездкі іншы раз ледзь не кожны тыдзень бываюць. Але, як толькі час дазваляе, яна там. У хоры яе любімая песня «Хлеб — усяму галава», (а любімы беларускі спявак — Яраслаў Еўдакімаў). Так што калгас імя Кірава і на самай справе песенны: спяваюць і радавыя сяляне, і галоўныя спецыялісты, настаўнікі, медыкі, жывёлаводы, майстры падсобных промыслаў...

Усё жыццё Лемешаву цягнула працаваць і вучыцца, вучыцца і працаваць. Пачынала даяркай. Завочна закончвала сярэднюю школу, затым сельскагаспадарчы тэхнікум. Працавала заатэхнікам-селекцыянерам і зноў вучылася. Цяпер ужо ў Віцебскім ветэрынарным інстытуце. Здольную студэнтку думалі заахвоціць навукай. Яна ўжо выбрала тэму для работы над кандыдацкай дысертацыяй. Але перамагла прага да жывой практыкі, да канкрэтнай дзейнасці.

Што яшчэ пра яе сказаць? Многае можна. Але ўсё роўна гэта будзе кропляй у моры яе кіпучай дзейнасці. Важна, бадай, яшчэ адну рысу падкрэсліць: міласэрнасць. Так-так, менавіта яе не хапае многім з нас. І жанчынам, на жаль, таксама. Здараецца, і Лемешаву з самай раніцы, што называецца, «заводзць», папсуюць нервы. Многія ў чынавніцкім апараце, на жаль, надзелены ўладай «знімаць стружку» з вясковага старшыні. Нехта падлічыў, што толькі штрафы маюць права накладваць каля паўтара дзесятка арганізацый і ўстаноў. Дык што, і старшыні ў сваю чаргу на падначаленых адыгрывацца за непрыемнасці? Такая «ланцуговая рэакцыя» не па натуры Наталлі Васільеўне. Яна заўсёды добразычлівая і ўважлівая да людзей. Яна ўпэўнена, што ніякая вытворчая неабходнасць не можа быць вышэйшай за праяўленне клопату аб чалавеку.

Штодня яна жыве думкай: што яшчэ зрабіць, прыдумаць, каб у вёсцы жылося і лягчэй, і нават весялей, чым у горадзе?

Віталь ФЕДАРАЎ.





**НА ЗДЫМКАХ: пасёлак Кіраўскі; элементы афармлення пасёлка; ідуць палявыя работы; работнікі калгаснага цэха разьбы па дрэву І. ПУЗАНАЎ, С. БАБЯНКОЎ, М. САЛАЎЁЎ, Д. ЮЗЭФОВІЧ.**

# ТУТ ЗАЎСЁДЫ РАДЫ ГАСЦЯМ

**Гэты ўтульны будынак у засені ліп (здымак унізе) на рагу вуліцы Захарава і Вайсковага завулка ведаюць многія суайчыннікі з розных краін свету, якія наведвалі Мінск, былі гасцямі Беларускага таварыства «Радзіма». Менавіта тут размяшчаецца гэта грамадская арганізацыя, якой 28 красавіка спаўняецца 25 гадоў. Праўда, спачатку яна называлася трошкі інакш — Беларускае таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за рубяжом, але яе функцыі і задачы былі вельмі падобныя на тыя, якія стаяць перад таварыствам «Радзіма». Неаднойчы ўжо падкрэслівалася, што ўся дзейнасць таварыства накіравана на абарону міру, развіццё і ўмацаванне дружбы, узаемаразумення паміж народамі розных краін, на пашырэнне культурных кантактаў з суайчыннікамі, якія жывуць за мяжой. Вядома, найбольшы клопат «Радзімы» аб беларусах, якія воляй не заўсёды ласкавага лёсу аказаліся раскіданымі па ўсім свеце. Таварыства падтрымлівае сувязі амаль з сарака патрыятычнымі зарубежнымі арганізацыямі суайчыннікаў больш як у 20 краінах свету. У мінулым годзе было прынята рашэнне аб развіцці кантактаў з беларусамі ў Польскай Народнай Рэспубліцы.**

**У чым жа гэтыя кантакты заключаюцца? Таварыства мае свой друкаваны орган, газету «Голас Радзімы», якая даносіць да землякоў весткі з Бацькаўшчыны, праўдзівую інфармацыю аб падзеях, што тут адбываюцца. Таварыства штогод запрашае ў піянерскі лагер на адпачынак дзяцей і ўнукаў суайчыннікаў з-за мяжы, арганізуе курсы для кіраўнікоў і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Таварыства пасылае за мяжу тысячы экземпляраў кніг, календароў, падручнікаў, пласцінкі, кінафільмы. Цяжка нават пералічыць усе добрыя справы Беларускага таварыства «Радзіма». Сёння мы друкуем частку пісьмаў (а ў далейшым будзем публікаваць яшчэ), якія прыходзяць штодзень на адрас: Мінск, Захарава, 23. Беларускае таварыства «Радзіма». З іх добра відаць, які шырокім колам праблем займаецца гэта арганізацыя, колькі самых розных людзей удзячныя супрацоўнікам за дапамогу, параду, кнігу.**

**Калі хто-небудзь з вас, паважаныя суайчыннікі, апынуўшыся ў Мінску, захоча завітаць па вышэйназванаму адрасу, калі ласка, заходзьце. Тут заўсёды рады гасцям і гатовы аказаць пасільную дапамогу.**



## ДАПАМАГАЕ ПРАФЕСІЯНАЛ

Па запрашэнню праўлення ансамбля «Калінка» ў Галандыі знаходзіўся супрацоўнік навукова-метадычнага цэнтра культуры Беларусі Мікалай Казенка для рэпетыцыйнай работы з танцавальнай групай ансамбля. Ён правёў больш за 50 гадзін рэпетыцый: работа ля станка, на сярэдзіне залы, адпрацоўка элементаў рухаў кампазіцый, пазней выкарыстаных у развучаных танцах, абучэнне методыцы правядзення заняткаў. Былі вывучаны беларускія танцы: «Полька», «Лявоніха», «Таўкачыкі», «Купалінка». Мы хочам падкрэсліць вялікую карысць і эфектыўнасць знаходжання Мікалая Казенкі. Намнога вырас узровень танцавальнай групы.

Былі таксама перададзены абутак для танцораў, балетныя туфлі для кожнага ўдзельніка, літаратура па танцах і для хору — рэпертуар на некалькі гадоў наперад. Гэта неацэнная дапамога. Ён прысутнічаў на сходзе Цэнтральнага праўлення Таварыства савецкіх грамадзян у Нідэрландах, дзе вырашалася пытанне аб пасылцы 3-х чалавек з харавой і аркестравай групы на семінар у Мінск па запрашэнню таварыства «Радзіма», а таксама пазнаёміўся з членамі праўленняў розных таварыстваў суайчыннікаў. У сваю чаргу, праўленне ансамбля зрабіла ўсё магчымае, каб стварыць Мікалаю Казенку ўмовы для работы і знаёмства з краінай. Ён наведаў гарады Амстэрдам, Ротэрдам, Дэльфт, Волендам, Гаагу, Заандам, пазнаёміўся з работай тэатраў, балетных школ, фальклорных ансамбляў, выставак, музеяў, сустракаўся з педагогамі, харыстамі, танцорамі. Несумненна, дзякуючы дапамозе харэографа, ансамбль можа ўжо ў бліжэйшых канцэртах выступаць з аддзяленнем, якое цалкам складаецца з беларускіх танцаў, аркестравых і харавых нумароў. Натуральна, не ўсё дасягнута за некалькі дзесяткаў гадзін рэпетыцый (патрэбна грунтоўная адпрацоўка элементаў, беларускі характар танцаў, ускладненасць каардынацый рухаў і інш.), таму праўленне ансамбля лічыць патрэбным такі эксперымент (ён праводзіўся ўпершыню ў «Калінцы») і ў далейшым, па ўзгадненні з таварыствам «Радзіма», праз рэгулярныя прамежкі часу, працягваць. Наша сумесная работа была карыснай і прыемнай. Дзякуем таварыству «Радзіма» за дапамогу танцавальнай групе.

**Сакратар Хуга АЛЕРС.**
**Дырыжор Інеса ФЕЕРМАН.**
Галандыя.

## І АЎСТРАЛІЙЦЫ ЎБАЧЫЛІ

Добры дзень, паважаныя сябры!

Дзякуем вам і супрацоўнікам таварыства «Радзіма» за віншаванні, добрыя пажаданні і календары, якія толькі што атрымалі.

Нам пашчасціла дастаць кнігу Васіля Быкава «Знак бяды», якая цяпер чытаецца з вялікай цікавасцю, тым больш, што па тэлевізары быў паказаны аднайменны савецкі фільм, а таксама фільм «Ідзі і глядзі», які зрабіў вельмі моцнае ўражанне. Пасля прагляду стужкі ходзіш некалькі дзён як пад жахлівым гіпнозам ад убачанага на экране зладзейства фашыстаў. І аўстралійцы пераканаліся, якой цаной дасталася перамога савецкаму народу. Апошнім часам па тэлебачанні сталі паказваць савецкія фільмы. Гэта для нас вялікая радасць, бо ў нас і кнігу на рускай мове немагчыма набыць.

Дзякуй вам за газету, за ўвагу да нас. Вялікае прывітанне і найлепшыя пажаданні ўсім супрацоўнікам таварыства «Радзіма».

Па даручэнню чытачоў бібліятэкі імя Някрасава

**Фрыда ПІДГАЙНАЯ.**
Аўстралія.

## РАДКІ З ПІСЬМАЎ

Паважаныя сябры!

Улегліся ўсе мае хваляванні і ўражанні, і я вырашыла, што ўжо настаў час падзякаваць усім вам за поўныя радасці дні, праведзеныя на Радзіме.

Наша знаходжанне ў Мінску, нягледзячы на халоднае надвор'е, было сагрэта цеплынёй вашых сэрцаў, увагай і добразычлівасцю. Вялікае вам дзякуй за ўсё.

Думаю, што ў вас усё добра, ваша высакародная работа не такая ўжо і простая, але як яна патрэбна нам. Яшчэ раз вялікае вам дзякуй!

З павагай і любоўю

**Любоў КВАРТЭЙ.**
Гана.

Я хацеў павіншаваць вас са святам і пажадаць шчасця і здароўя.

Карыстаючыся выпадкам, хачу падзякаваць вам ад свайго і Клавінага імя за выдатную кнігу-падарунак, якую вы нам прыслалі, а таксама за ўсё, што вы зрабілі для нас у лагеры. Я ведаю, што ўжо не змагу прыехаць у лагер, але спадзяюся завітаць як-небудзь у госці ў Мінск.

Перадайце, калі ласка, прывітанне ўсім з лагера «Зялёны Бор».

**Сяргей КАПЕНОЛ.**
Галандыя.

Добры дзень, паважаныя таварышы!

Піша вам Наташа Эль-Дзіэфі з Кувейта. Да Новага года я атрымала ад вас дарагі падарунак — календары. Вялікае дзякуй вам, што не забываеце. Маленькія насценныя календары я раздала сваім знаёмым жанчынам (вы не ўяўляеце, як яны абрадаваліся). Вялікі насценны каляндар, пасля таго як я яго прачытала, мой муж забраў і павесіў у сябе ў кабінеце ў кампаніі, каб усе бачылі, якія прыгожыя розныя куткі нашай Радзімы! А жаночы настольны каляндар таксама дам жанчынам чытаць па чарзе.

Яшчэ вялікае дзякуй за першы нумар газеты ў гэтым годзе.

З падзякай

**Наташа ЭЛЬ-ДЗІЭФІ.**
Кувейт.

Праўленне культурна-спартыўнага таварыства імя А. С. Пушкіна сардэчна дзякуе вам, дарагія сябры з таварыства «Радзіма», за сувеніры, якія вы нам падарылі ў дзень гадавіны нашага таварыства і развітальнага вечара вашай дэлегацыі.

**Яўгеній БОЙКА,**
**старшыня.**
**Раберта ЛІШЧЫНСКІ,**
**сакратар.**
Аргенціна.

## СУМУЮ БЕЗ РОДНАЙ МОВЫ

НАША СЯМ'Я ў зімнія месяцы пакідае Галандыю. Муж-пенсіянер не зусім здаровы, а я карыстаюся паўднёвым сонцам.

Клімат цудоўны! А вось для душы адпачынку мне не хапае. Магчыма, і ад самой залежыць, але, здаецца, не: гэты горад маленькі, і хаця Бенідорм ужо моцна разбудаваўся ў вышыню, тым мацней відаць, што Іспанія бярэ добрую цану за свой тавар — Сонца. Цэны ў магазінах павысіліся, а ў атэлях — яшчэ больш. На вуліцах многа замежнага люду, і ў кіёсках перыядычныя выданні розныя. А вось савецкага часопіса ці газеты не знойдзеш. У Мадрыд не паедзеш, занадта далёка. У красавіку будзем вяртацца ў Галандыю, там усё ж весялей.

Суайчыннікаў тут сустракаеш рэдка (іншы раз прыходзіць думка, што схаваліся людзі, забываеш, што гэта ж не ў Савецкім Саюзе).

Пакуль трымаюся добрага таварыства ў горадзе Амстэрдаме, таварыства «Айчына». Дзейнасць яго вам вядомая. Збіраем спеўкі, наладжваем цікавыя вечары і глядзім савецкія фільмы. Гэтыя сустрэчы — радасць для нас, пасля іх — весялей жыць!

А для мяне зноў выпала доля — асцярожна рыхтавацца ў адзіноцтва. Наша сям'я перасялілася ў другую правінцыю, даволі далёка ад горада Амстэрдама. Савецкія нібыта тут няма, але пакуль дакладна не ведаю.

Заўсёды ўспамінаю і дзякую таварыству «Радзіма», якое я наведала ў 1987 годзе. Крыху з сумам, але і з радасцю ўспамінаю дні тыдняў, пражытыя ў Савецкім Саюзе, на зямлі Беларусі. Пабывала ў музеі Вялікай Айчыннай вайны, многа бачыла — ёсць аб чым расказаць іншым. Якія жахі твары, якія каварны быў германскі фашыст! Добра бачыла я і аднаўленне ўсяго разбуранага. Вялікую працу ўклаў савецкі народ на сёння і для будучыні! Мінск, таксама і Брэст вельмі прыгожыя гарады.

Пры гутарках я паказваю набор паштовак пра Мінск, многія з цікавасцю разглядваюць іх і не могуць паверыць, што там такія прыгожыя будынкі. Бо яны толькі і чулі, што гарады будаваліся наспех. А тут бачаць прыгожай архітэктуры будынкі школ, тэатраў, жылых кварталаў.

Яшчэ дзякуй вам за родную мову (я ўжо зразумела, што яе забыла), не часта я чую яе ў замежжы. Ваш каляндарчык «Фонд міру» я буду берагчы і карыстацца ім. А плакаты пасля прыезду ў Галандыю падзяліла паміж двума таварыствамі: «Дружба» ў горадзе Гаага і «Айчына» ў Амстэрдаме. У таварыстве «Дружба» якраз адзначалі свята Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Плакаты ўпрыгожвалі сцэны залы і нібыта вымаўлялі: «Мір патрэбен на Зямлі!». Народу было шмат.

Усе песні і ноты да іх аддала ў таварыства «Айчына». Яны будуць развучваць, пакуль без мяне. Сама я вельмі люблю спяваць. Цяпер я шчаслівая, што магу слухаць перадачы з Савецкага Саюза — радыёстанцыю «Юнацтва» і «Маяк». Руская песня ўсюды дае падтрымку чалавеку.

Газету «Голас Радзімы» я атрымліваю, але чытаць, шчыра кажучы, цяжка. Я некалькі экземпляраў нават захапіла з Галандыі, калі адпраўлялася ў Іспанію, а ў ёй, аказваецца, ёсць старонка на іспанскай мове.

Я суседзям-іспанцам прапанавала, яны ахвотна чыталі і вялі дыскусіі, але якія, не ведаю. Я іспанскай мовай валодаю дрэнна.

Шкада мне, што добрая стажыроўка па спевах і ўсе турысцкія экскурсіі па гораду Мінску — у мінулым і засталіся толькі ўспаміны добрага, цёплага прыёму.

Жадаю ўсім супрацоўнікам здароўя, радасці, поспехаў у творчасці, працы!

**Надзея УЧАРАШНЯЯ.**
Галандыя.

*ТОЧКА ЗРЕНИЯ УЧЕНОГО*

# ОБЩЕСТВЕННАЯ СОБСТВЕННОСТЬ ПРИ СОЦИАЛИЗМЕ

### К НОВОЙ ОРГАНИЗАЦИИ ГОСУДАРСТВЕННОЙ ВЛАСТИ

Обобществление средств производства зависит, как видим, от организации государственной власти, которая всегда тяготеет к бюрократизму, к командно-директивным методам управления, к администрированию. Но объективная основа этой тенденции — государственная собственность на средства производства.

В результате революционных преобразований и утверждения государства как полновластного собственника возникает общественное единство не через рынок, а через политическую систему всего общества. В этом случае политические отношения становятся определяющими, господствующими, а проблема взаимоотношений между властью, теми, кто олицетворяет общество как целое, и трудящимися с их коллективами становится основным противоречием общественного развития. Те, кто управляет и должен служить общественным интересам (а у них есть своя иерархия интересов: ведомственных, местнических и так далее, в зависимости от масштабов деятельности), хотят закрепить эту свою роль. **Поэтому перераспределение функций собственности (следовательно, и отношений власти), обогащение их содержания, экономический (с помощью товарно-денежных отношений) контроль за аппаратом власти, его эффективностью — суть демократизации нового общества.** Возник парадокс: политизация всех общественных отношений не только устранила подлинную политику, свела ее к произволу и волюнтаризму одних и к аполитичности других, но и не позволяла внедрить экономические методы управления. Многие страны после определенных завоеваний начального этапа социалистического строительства, достигнутых энтузиазмом масс, концентрацией сил, очень дорого оплаченных, были поставлены перед выбором: либо усиливать внеэкономическое принуждение, либо, используя рыночные механизмы, возобновить процесс обобществления средств производства. Реформы в большинстве этих стран показывают, что ими сделан выбор в пользу последнего варианта.

Раз процесс обобществления не завершен (сделаны только первые шаги), то понятна необходимость широко использовать товарно-денежные отношения. Лишь с их помощью можно осуществлять экономический контроль за эффективностью всех звеньев аппарата власти, то есть распространить хозрасчет и на них. Более могучего способа борьбы с бюрократизмом, с «узурпаторскими» наклонностями аппарата управления нет. Конечно, это не может не встречать противодействия и даже сопротивления с его стороны, поскольку долго такого экономического контроля не было. Именно здесь — истоки противоречий между коллективами предприятий и высшими звеньями планирования и управления, которыми сопровождаются реформы в социалистических странах.

### ХАРАКТЕР РАБОЧЕЙ СИЛЫ

Ну а как с товарностью рабочей силы при социализме? Очевидно, она тоже не исчезает с устранением традиционных эксплуататорских классов, а сохраняется.

Кажется, что такая позиция уязвима, поскольку трудящиеся не отделены полностью от средств производства (все — совладельцы), всем в большинстве стран гарантировано трудоустройство, оплата труда происходит не только в рамках его стоимости, а дополняется общественными фондами.

Но вряд ли можно игнорировать объективные различия между государственными, групповыми и частными интересами, их многообразие и столкновение, отношения найма между работниками и государством, денежную оплату на основе закона стоимости, развивающуюся конкурентность между трудящимися. К сожалению, все это недостаточно поощрялось и учитывалось на протяжении истории социализма.

Распространяемая догма: при социализме рабочая сила уже не является товаром — имеет предпосылкой анализ Марксом и Энгельсом социализма как нетоварного, в принципе, производства. Даже те ученые, которые пытались как-то отойти от нее, были непоследовательны. Признавая, например, личную собственность работников на рабочую силу при социализме, они утверждали как аксиому, что одновременно работники — «совокупные собственники» сообща применяемых средств производства. Но в том-то и дело, что функции собственности распределены в экономическом и правовом смысле не одинаково.

Полный собственник на средства производства — государство. Между работником и государством (в лице администрации предприятий) и возникают отношения найма, которые не могут не обретать форму товарных отношений. Кстати, если человек не продает рабочую силу, значит, у него нет в этом нужды: он — либо полный хозяин средств производства, либо лишен такого права внеэкономическими регуляторами: например, его рабочая сила кем-то (не им) зара[illegible]спланирована и организована. В [illegible]ом случае трудящиеся теряют даже свободу продажи рабочей силы в обмен на «застрахованность казармы». Признание товарности рабочей силы — это признание реального уровня достигнутого обобществления. Честно признать «работу по най[illegible]» — значит, и обязательно призна[illegible] свободу выбора работы, особенно при существовании разных форм собственности, перейти и в этой сфере от командно-административных методов к экономическим.

Олицетворяя общество как целое, государство в идеале выступает выразителем общественных интересов. Поэтому только через связь с ним члены общества могут проявить себя как собственники. Государство в своих руках концентрирует не только средства и продукты производства, но и основную часть прибыли, производимую трудящимися, и почти все условия труда и жизни людей. Если же труженики не участвуют в управлении (распоряжении и пользовании) ресурсами, тогда, используя терминологию Маркса, они относятся к тому, что создано ими, не как к условиям своего собственного, а как к условиям чужого богатства и своей собственной бедности.

Это и порождает соответствующее отношение к государству и к его собственности: от плохой работы, ухода в сугубо частную жизнь — до воровства, взяточничества, злоупотреблений служебным положением. Разумеется, причины таких явлений не однозначны, но в их числе и грубые нарушения социалистической демократии, приводящие к формуле «мы и они», к противостоянию, а то и к конфликтам управляющих и управляемых. Отсюда необходимость политических реформ.

Процесс обобществления условий труда вообще не может быть окончательно завершен, так как отношения собственности воспроизводятся и развиваются новыми поколениями людей. Лозунг «Больше социализма!» означает прежде всего дальнейший процесс обобществления, постепенную передачу управления, распоряжения средствами производства их действительному владельцу — народу. Аппарат власти с его многомиллионной армией правящего чиновничества должен быть не просто резко сокращен, а поставлен в прямую экономическую зависимость от тех, кем он управляет.

**Виктор КИСЕЛЕВ,**
**кандидат философских наук.**

**НЕ ПОРА ЛИ ИЗМЕНИТЬ СТАТУС ЯЗЫКА МЕЖНАЦИОНАЛЬНОГО ОБЩЕНИЯ**

# ОБРАТНАЯ СТОРОНА

Острые дискуссии о языке в Молдавии выдвинули этот вопрос на первое место среди всех проблем межнациональных отношений в республике.

Языковая ситуация в Молдавии существенно отличается от других республик, где уже введен статус государственного языка, как, например, в Прибалтике. Вопрос о придании такого статуса молдавскому языку слился с двумя другими: идентификация молдавского (литературного) языка с румынским и переход от кириллицы, обслуживающей молдавскую письменность с начала образования Молдавского государства (т. е. свыше шести веков), на латиницу (фактически на более сложный румынский алфавит). Таким образом, речь идет о стратегической переориентации не только языковой политики.

Да, молдавский язык нуждается в государственной защите, впрочем, как и другие языки, функционирующие на территории республики. Да, необходимо расширение его социальных функций и среды применения, радикальное повышение его качества. Но разве придание молдавскому языку статуса государственного — единственная форма его государственной защиты?

Вопрос в том, как решать назревшие и не терпящие откладывания в долгий ящик языковые проблемы. Почему бы не обратиться к опыту Финляндии, где на равных функционируют два государственных языка — финский и шведский, хотя шведы составляют лишь 6 процентов населения страны? Или — Индии (свыше 70 национальностей) с ее двумя государственными языками — английским и хинди? Или к опыту, правда, прошлому, Белоруссии, где в свое время было четыре государственных языка: белорусский, русский, польский и идиш? Наконец, Казахстан, где предполагается государственное двуязычие: казахский и русский.

Как представляется [illegible]рантом интересов почти 40-процентного немолдавского населения республики может быть лишь одновременное, и на равных, декретирование в Молдавии двух государственных языков: молдавского и русского. Это не возвращение «на круги своя», ибо молдавский язык реально выходит на статус государственного, расширяет свои функции и сферу применения. В то же время, полагаю, это будет вполне приемлемо и для украинцев, гагаузов, болгар, и для евреев, немцев — для всех других национальностей, проживающих в республике.

Происходящий сейчас в Советском Союзе процесс придания языкам народов, давших свое наименование соответствующей республике, статуса государственных языков имеет и другую сторону. Получается, что субъекты федерации будут иметь один или два государственных языка, само же союзное государство оказывается практически пока без такового. Такая ситуация представляется совершенно абсурдной: похоже, что библейский миф о Вавилонской башне приобретает черты грозной реальности.

А потому, отвечая на вопрос, сформулированный в строке над заголовком статьи, я утверждаю: нам, нашей стране, необходим единый федеральный государственный язык. Такую функцию может выполнить только язык межнационального общения — русский. И ему необходимо придать статус государственного в границах всего Советского Союза.

**Анатолий ЛИСЕЦКИЙ,**
**доктор исторических наук.**

**С ГАРАНТИЕЙ В 20 ЛЕТ**

# ИСКУССТ[illegible]ЕННЫЙ КЛАПАН СЕРДЦА

«ЭМИКС» — так назвали специалисты свою конструкцию — клапан сердца, предназначенный для имплантации взамен пораженных аортальных, митральных и трикуспидальных естественных клапанов сердца. Принципиально новая модель клапана защищена авторскими свидетельствами и запатентована в США, Италии, ФРГ, Японии.

— До нашей модели,— рассказывает Наум Иофис, автор изобретения и руководитель группы московских инженеров-электронщиков, разработавших «ЭМИКС» — в СССР выпускались (они и сейчас еще выпускаются) искусственные шаровые клапаны сердца. Человек с имплантированным шаровым клапаном может жить, но... только без физических нагрузок. Обладая большим объемом и большим весом, занимая более трети рабочего объема желудочка, этот клапан не обеспечивал человеку нормальной жизнедеятельности.

«ЭМИКС» — дисковый клапан. В сравнении с шаровым он гораздо надежнее и физиологичнее. Одно из его главных достоинств — малый вес. «ЭМИКС» весит всего 3 грамма, и, по всей видимости, это не предел.

**— Известно, что в своей работе вы исходили из конструкции клапана американской фирмы «Бьйерк Шили». Было ли у вас моральное или юридическое право на изготовление копии!**

— Действительно, мы решили скопировать этот один из лучших вариантов клапана, но только для изучения: надо было с чего-то начинать. Но сделав его (причем отмечу без ложной скромности, он был изготовлен на более высоком техническом и технологическом уровне, чем американский), мы увидели ряд недостатков, присущих этой конструкции. Например, повышенный износ клапана при длительной работе. Выполненный из стеллита, он оказался очень тяжелым (удельный вес материала — 8 г/см³). Кроме того, он ненадежен, что подтвердилось сообщениями в «Вашингтон пост»: на тысячу имплантированных клапанов этой модели было до восьми случаев смерти в результате его отказа.

**— В чем конструктивное отличие советского клапана «ЭМИКС» от клапана фирмы «Бьйерк Шили»!**

— Мы нашли, что американская конструкция неравнопрочна с точки зрения сопромата. Кроме того, по гарантии фирмы их клапан способен выдержать полмиллиарда циклов «открытие-закрытие». За такое количество циклов изнашивается запирающий элемент из углеродного материала. Мы же сумели сделать так, чтобы клапан одновременно с циклом «открытие-закрытие» еще и поворачивался, постоянно меняя место износа.

При разработке своего клапана мы впервые в мировой практике применили титан, что позволило значительно облегчить его вес. Есть и другие отличия. Мы разработали принципиально новую конструкцию, в которой нагрузка одинакова в любой точке: и в месте соприкосновения с запирающим элементом, и на максимальном удалении от него. Отсюда и повышение долговечности. Форсажные испытания на стендах показали, что даже при пятидесятилетней работе клапан не выйдет из строя. Это дает основание для гарантии в течение 20 лет. При этом надо иметь в виду, что при форсированной работе нагрузки увеличиваются непропорционально.

**— А что говорят об «ЭМИКСе» кардиологи?**

— Из семи тысяч имплантированных клапанов не было ни одного смертельного случая. Кроме того, наш клапан позволяет уменьшить дозы лекарств, рекомендуемых после имплантации во избежание тромбоза.

При искусственных клапанах в организме человека увеличивается гемолиз крови (разрушение клеток крови, которые затем выводятся из организма естественным путем), что заставляет кроветворные органы работать с большей интенсивностью. По отзывам кардиохирургов, клапаны «ЭМИКС» обеспечивают более низкий гемолиз по сравнению с другими конструкциями.

«Клапаны «ЭМИКС» не уступают лучшим мировым образцам по всем параметрам, а по некоторым и превосходят их». Это отзыв японских специалистов.

**Александр КОГАЛОВ.**

*Полоса подготовлена по материалам АПН.*

*НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ*

# ЛЮБІМЫ НАСТАЎНІК

У **1932 ГОДЗЕ** я скончыў Бабруйскую школу, якая рыхтавала аўтарамонтнікаў дарожна-будаўнічых машын і давала права на паступленне ў любую вышэйшую навучальную ўстанову. Мне ж, як выхаванцу дзіцячага дома, па тагачасных правілах яшчэ і без уступных экзаменаў.

Летам я паехаў у Мінск, каб на месцы вырашыць, у які інстытут паступаць. У мяне было жаданне стаць урачом. Да таго ж яшчэ ў 1930 годзе ў № 6 «Узвышша» было надрукавана маё апавяданне «Калецтва», і з гэтай нагоды Кузьма Чорны напісаў мне пісьмо, дзе запрашаў зайсці да яго, каб пазнаёміцца. Мікалай Карлавіч ветліва сустрэў мяне. Прыбраўшы са стала рукапіс «Бацькаўшчына», запрасіў да стала, з цікаўнасцю распытваў пра маё жыццё. Калі я расказаў сваю кароткую біяграфію і адзначыў, што мяне могуць залічыць без уступных экзаменаў у любы інстытут, ён усклікнуў:

— Дык гэта ж цудоўна! Паступай на творчае аддзяленне Вышэйшага педагагічнага інстытута. На літфаку чытаюць лекцыі выдатныя выкладчыкі: Іван Замоцін, Яўген Барычэўскі, Міхайла Піятуховіч... Усе яны цудоўныя вучоныя, асабліва Замоцін. Мне пашчасціла слухаць яго лекцыі па рускай класічнай літаратуры ў БДУ. Ён адзін з першых даследчыкаў беларускай літаратуры. Яго навуковыя літаратуразнаўчыя працы наш часопіс «Узвышша» друкуе з ахвотай. Ці чытаў ты яго нарыс «М. Багдановіч»?

Я адказаў, што чытаў з вялікім захапленнем.

— Гэта добра... Працы Замоціна вызначаюцца глыбокім аналізам, — працягваў Мікалай Карлавіч. — Лекцыі — гэта ўзор педагагічнай і літаратуразнаўчай навукі. Раю табе, браце, паступаць на літфак. У цябе, мне здаецца, ёсць некаторыя здольнасці да літаратуры...

Я паслухаўся парады Кузьмы Чорнага і не пашкадаваў.

Лекцыі прафесара Замоціна па рускай літаратуры, якія ён нам чытаў, запомніліся на ўсё жыццё.

— Майце свой падыход, сваю канцэпцыю па кожным літаратурным творы, — гаварыў нам Іван Іванавіч. — Не займайцеся, калі ласка, паважаныя студэнты, плагіятам чужых думак з крытычных артыкулаў, смялей выказвайце ўласныя меркаванні. Вы здольны самастойна зрабіць аналіз мастацкага твора. Рэкамендую крытычныя працы чытаць толькі пасля таго, як у вас складзецца свой погляд на тую ці іншую літаратурную прадукцыю любога пісьменніка.

Іван Замоцін быў нашым любімым настаўнікам. Мы, студэнты, з нецярпеннем кожны раз чакалі яго лекцый. Жэня Каплунова і Лёля Радзеўская (у будучыні жонка Петруся Броўкі Алена Міхайлаўна) часта станавіліся каля прыадчыненых дзвярэй і, калі Замоцін з'яўляўся ў канцы калідора, з заміраннем шапталі: «Іван Іванавіч ідзе!» У аўдыторыі ўсталёўвалася такая цішыня, што чутно было, як пралятала муха. А прафесар, ідучы да кафедры, злёгку ўсміхаючыся, вітаўся і дэкламаваў радкі з твора таго пісьменніка, пра якога ён збіраўся нам расказваць.

— Вы, конечно, знаете, что Иван Сергеевич Тургенев писал стихотворения в прозе. Вот одно из них:

«Во дни сомнений, во дни тягостных раздумий о судьбах моей родины,— ты один мне поддержка и опора, о великий, могучий, правдивый и свободный русский язык! Не будь тебя — как не впасть в отчаяние при виде всего, что совершается дома? Но нельзя верить, чтобы такой язык не был дан великому народу!»

Гэтыя радкі, як, бадай, і ўсе цытаты з твораў рускіх класікаў, прафесар выразна і прыемна чытаў без канспектаў, па памяці.

Мы з захапленнем слухалі яго лекцыі.

Жэня Каплунова (цяпер ветэран педагагічнай працы) праз некалькі дзесяткаў гадоў напіша сваёй сяброўцы, дачцэ Замоціна, Таццяне Іванаўне.

«Я перш за ўсё абавязана Івану Іванавічу Замоціну тым светлым і нязгасным агнём любві да рускай літаратуры, якую ён сцвердзіў назаўсёды ў маім сэрцы. Хіба магу забыць яго лекцыі пра Тургенева, Чэхава, Дастаеўскага? І ў гэтыя мінуты я бачу яго за кафедрай у яго любімай позе — абапёршыся на кафедру локцем левай рукі (ён заўсёды стаяў неяк крыху наўскос да аўдыторыі). У ім было нешта ад Тургенева, і ад Горкага, і ад Коласа...» (З Коласам Замоцін шчыра сябраваў).

І. Замоцін — выдатны не толькі літаратуразнаўца, але і педагог. Ён аўтар навуковых кніг, якія былі нашымі першымі дапаможнікамі ў педагагічнай працы. У іх вучоны дае парады ў галіне метадычных прыёмаў вывучэння літаратуры, улічвае як лекцыйную, так і самастойную работу вучняў. «Працоўная школа робіць працоўную дзейнасць асноўным аб'ектам зместу школьных курсаў, а працоўныя працэсы — асноўнымі формамі школьных метадаў вывучэння таго ці іншага прадмета»,— гаварыў ён.

Некаторыя думкі вучонага знаходзяць водгук у сучасным школьным жыцці.

27 студзеня 1927 года газета «Савецкая Беларусь» апублікавала зварот беларускіх дзеячаў навукі да вучоных Захаду ў сувязі з разгромам Беларускай сялянска-работніцкай грамады і масавым тэрорам у Заходняй Беларусі. Зварот падпісалі Янка Купала, Якуб Колас, М. Піятуховіч, І. Замоцін, Я. Барычэўскі і інш.

4-га сакавіка 1928 года ў Доме партасветы адбыўся дыспут на тэму: «Л. Талстой і наша сучаснасць». Выступілі І. Замоцін, Я. Барычэўскі, П. Бузук і інш.

Памятаю, як 2-га кастрычніка 1932 года адбыўся вечар, прысвечаны 40-годдзю літаратурнай дзейнасці М. Горкага, на якім з дакладам выступілі І. Замоцін, С. Вальфсон. Творы, прысвечаныя юбіляру, чыталі Я. Купала, А. Александровіч, С. Ліхадзіеўскі і інш.

20 снежня 1932 года ў Доме пісьменніка адбыўся творчы вечар К. Крапівы. З дакладам аб 10-гадовым творчым шляху пісьменніка выступіў прафесар І. Замоцін. Ён выступаў на ўрачыстых вечарах, прысвечаных 70-годдзю з дня нараджэння А. Серафімовіча, 30-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы і Я. Коласа, на якіх мне пашчасціла прысутнічаць.

І. Замоцін чытаў навуковыя лекцыі ў Мінску, Бабруйску і іншых гарадах рэспублкіі. Тэмы яго лекцый — творчасць Пушкіна, Лермантава, Гогаля, Чарнышэўскага, Тургенева, Някрасава, Салтыкова-Шчадрына, Чэхава. Падлічана, што Іван Іванавіч за два апошнія месяцы 1934 года прачытаў насельніцтву 20 лекцый.

У 17-ю гадавіну Вялікага Кастрычніка студэнты вырашылі запрасіць выкладчыкаў на свой вечар. Мне разам з іншымі выпаў гонар «даставіць» на вечар акадэміка Івана Замоціна з сям'ёй. Здавалася, усё проста: пайсці і запрасіць. Падышоўшы да дома № 19, што на Савецкай вуліцы ў Мінску (цяпер плошча Леніна), я адчуў, як мяне ахапіла хваляванне. Я націснуў кнопку званка. Неўзабаве пачуліся лёгкія крокі і перад намі, лагодна пасміхаючыся, у белай палатнянай талстоўцы стаяў Іван Іванавіч.

— Калі ласка, уваходзьце,— і Іван Іванавіч, крыху адступіўшыся ад дзвярэй, запрасіў у кватэру. Нас сустрэла стройная, у пенснэ жанчына. Іван Іванавіч прадставіў яе:

— Мой самы лепшы друг і жонка Вера Паўлаўна. Толькі не з рамана Чарнышэўскага «Што рабіць?»,— пажартаваў Іван Іванавіч.

Мы прайшлі ў рабочы кабінет, дзе на стэлажах было мноства кніг.

— Прабачце, Іван Іванавіч, але ў нас з вамі мала часу.

Іван Іванавіч зірнуў на гадзіннік.

— Часу сапраўды мала... Ад калектыўнага запрашэння студэнтаў мы не адмаўляемся. Ды і свята вялікае...

Той святочны вечар, праведзены разам з І. Замоціным і яго сям'ёй, запомніўся на ўсё жыццё. Акадэмік цёпла і сардэчна павіншаваў студэнтаў са святам Кастрычніцкай рэвалюцыі, зычыў нам поспехаў у авалоданні вяршынямі педагагічнай навукі, заклікаў быць заўсёды актыўнымі будаўнікамі новага светлага жыцця.

Мы бязмежна любілі свайго настаўніка за яго глыбокія веды, за прастату і чуласць да нас.

Іван Замоцін нарадзіўся 2 лістапада 1873 года ў сям'і беззямельнага селяніна з вёскі Крывуліна былой Цвярской губерні. У 8 гадоў застаўся без бацькі, некаторы час выхоўваўся ў так званым «прыхадзяшчым» дзіцячым доме, гэта значыць, у дзіцячым доме знаходзіўся толькі днём, а на ноч яго забірала дамоў маці, якая рабіла прачкай у адной настаўніцы. Апошняя заўважыла выдатныя здольнасці Вані да вучобы, уладкавала яго ў адну з гімназій у Пецярбургу. Праз колькі часу Ваню Замоціна перавялі ў Пскоўскую гімназію, якую ён скончыў з залатым медалём. Пазней гэты медаль Замоцін прадаў, каб неяк дапамагчы хворай маці. У 1897 годзе І. Замоцін скончыў С.-Пецярбургскі гісторыка-філалагічны інстытут і быў прызначаны на пасаду выкладчыка старажытных моў 3-й варшаўскай гімназіі. Тут і пачалася яго не толькі педагагічная, але і плённая літаратуразнаўчая дзейнасць. З 1908 года ён стаў прафесарам Варшаўскага універсітэта на кафедры рускай мовы і літаратуры.

З чэрвеня 1917 года Варшаўскі універсітэт перавялі ў горад Растоў-на-Доне і назвалі яго Данскім, дзе І. Замоцін працаваў прафесарам. У 1922 годзе ўрад БССР запрасіў Івана Замоціна на пасаду выкладчыка Беларускага дзяржаўнага універсітэта, а з 1931 года ён прафесар Вышэйшага педагагічнага інстытута, дзе мне і пашчасціла слухаць яго лекцыі. Адначасова Замоцін працаваў і ў Інстытуце беларускай культуры.

Спецыяльныя даследаванні Замоціна прысвечаны драматургіі Янкі Купалы, творчасці Максіма Багдановіча, паэме Якуба Коласа «Новая зямля» і інш. Да беларускай літаратуры вучоны падыходзіць з самымі высокімі эстэтычнымі крытэрыямі. Ацэнка творчасці Багдановіча даецца ў святле агульных дасягненняў еўрапейскай паэзіі. «Новая зямля» разглядаецца як выдатны твор паэтычнага мастацтва. «Непасрэдныя назіранні над беларускай рэчаіснасцю, — зазначае даследчык,— вывелі аўтара «Новай зямлі» на шлях шырокай тыпізацыі жыцця... На гэтым шляху ім створаны яркія тыповыя малюнкі і вобразы». Многія думкі Замоціна знайшлі далейшае развіццё ў працах сучасных беларускіх літаратуразнаўцаў.

Акадэмік І. Замоцін вызначаўся дапытлівым розумам і шырокімі поглядамі, а ў часы сталінскіх рэпрэсій такія людзі былі асабліва не ў пашане. Акадэміка Івана Замоціна арыштавалі летам 1938 года, незаслужана асудзілі і выслалі ў паўночныя лагеры краіны.

У 1942 годзе І. Замоціна прывезлі ў турму горада Горкага, нібыта для даследавання. Пры якіх абставінах вучоны загінуў 25 мая 1942 года, засталося невядомым. Веры Паўлаўне, якая жыла ў старэнькай халоднай хатцы з дачкой Таццянай у пасёлку Колтушы, што пад Ленінградам, паведамілі, што яе муж Замоцін І. І. пахаваны на могілках Мар'інай Рошчы. Мы з Таццянай Іванаўнай некалькі гадоў таму назад ездзілі ў горад Горкі, каб адшукаць магілу вучонага. Але беспаспяхова.

Пасля смерці маці Таццяна Іванаўна на Колтушскіх могілках паставіла помнік з надпісам.

**«Академик Иван Иванович**
**ЗАМОТИН**
**1873—1942**
**ЗАМОТИНА Вера Павловна**
**1884—1975»**

А ў 1985 годзе на будынку 2-га корпуса Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага, у якім з 1931 па 1939 год працаваў выдатны вучоны і педагог, устаноўлена мемарыяльная дошка з партрэтам і надпісам: «Здесь работал известный ученый-литературовед, академик АН СССР, член-корреспондент АН БССР Иван Иванович Замотин».

Светлы вобраз выдатнага вучонага, цудоўнага чалавека і педагога застаўся ў памяці ўсіх, хто яго ведаў.

**Яфім ГАВАРУШКА.**

## *З НОВЫХ ВЕРШАЎ*

**Рыгор БАРАДУЛІН**

x x x

**Душа, як ні прагнецца ёй,**
**Не можа вярнуцца ў паганства:**
**Лясы — апірышча і прытулак —**
**Павысечаны, пакарчаваны, патраляваны,**
**Рэкі — у іх бруд і пыл змываўся —**
**Павысушаны, павыпрастаны, павыпіты.**
**Як ацішэць, абымшэць, адтаць!**
**Куды ні кінься — параснікі, хмызнякі.**
**Як праседзець бяду**
**З чарацінкай у роце,**
**З пластмасавай,**
**Кактэйльнай у водападобнасці,**
**Вясёлкавай ад мазуту,**
**Падступнай ад радыяцыі!**
**І непрытомная душа ў паганстве**
**Асланяе сябе крыжам,**
**Крыжам чарговай магілы...**

**ЗЬНІЧ**

## РОДАВЫ РОЗДУМ

**Ад варламаўскіх імператываў**
**мой наіўны, хавальны заклён:**
**чысціня, дасканаласць**
**матываў**
**наш адзіны — для Вечнасці —**
**плён.**

**Мы— Сусветаў карона і суддзі!..**
**Тайне Існага — сэнс і прысуд!..**
**Што ж з гармоніяй Зорнаю будзе —**
**калі й там запануем!..**
**(як — тут!..)**

**Гандляру, мясніку і паэту,**
**селяніну, што творыць раллю,**
**спавядаецца ў процьме Сусвету**
**блудны сын, што спустошыў**
**Зямлю...**

**Сяргей ВЕРАЦІЛА**

## ЗАЙЗДРАСЦЬ

**Зайздрошчу ветру.**
**І сонцу,**
**і дню,**
**і ночы,**
**і месяцу,**
**і зоркам.**
**Яны могуць бываць з табою**
**Значна часцей за мяне.**

**Сяргей ВЕРАЦІЛА**

x x x

**Я заходзіў у цэрквы,**
**мячэці,**
**касцёлы,**
**кіркі**
**і сінагогі.**
**І зразумеў:**
**«Бог там ніколі не жыў».**
**Сярод камянёў мураваных сцен**
**Холадна нават улетку.**

**Алесь БАДАК**

## У ТУМАНЕ

**Нехта нябачны**
**У шэрым тумане**
**Ціха гукаць мяне**
**Вечарам стане**
**Голасам, поўным**
**Пяшчоты і болю.**
**— Хто ты! — спытаю.**
**Адкажа мне:**
**— Воля!**
**Толькі пачну**
**Да яе набліжацца —**
**Голас паціху**
**Пачне аддаляцца.**
**Следам пайду я,**
**І будзе навокал**
**Шэры туман,**
**Хоць выкалі вока.**
**Сэрца заные**
**І стомяцца ногі.**
**Стану.**
**Адчую,**
**Што збіўся з дарогі.**
**Гляну уніз —**
**Там недзе**
**Далёка**
**Сонца пачне**
**Выплываць з-за аблокаў.**

**Алесь БАБАЕД**

## ВЕСНАВАЯ ЭЛЕГІЯ

**Знаёмай сцежкаю блукаю.**
**Каму пра сум свой расказаць!**
**І быццам нечага чакаю,**
**а можа нечага чакаць!**
**Вясновы дзень мяне расчуліў.**
**Гукнуў знячэўку і ў цішы**
**разнёсся поклічам зязюлі,**
**адбіўшыся ў маёй душы.**

## ФІЛЬМ СЁННЯ, ЗАЎТРА, ПАСЛЯЗАЎТРА

# АД РАДЫКАЛЬНЫХ МАНІФЕСТАЎ—ДА СУЧАСНАГА КІНО

Калі коратка ахарактарызаваць агульную сітуацыю ў сённяшнім савецкім кіно, то можна сказаць, што становішча ў ім радыкальна аздаравілася, засталіся ў мінулым бюракратычныя перашкоды і цэнзурныя забароны, чыноўнік-перастрахоўшчык практычна перастаў рэдагаваць мастацтва.

Але аказалася, што прадастаўленай свабодай распарадзіцца не вельмі проста: як ні кляймі «ўнутранага цэнзара», ён настолькі трывала ўладкаваўся, што выгнаць яго з самога сябе за два-тры гады — задача не з лёгкіх. Таму і сёння ў некаторых савецкіх фільмах можна разгледзець ідэалагічныя схемы, народжаныя яшчэ дагматыкамі жданаўскага толку і любоўна выпеставаныя затым адэптамі Брэжнева і Суслава. Вось, скажам, ва ўзбекскім фільме «Сэнс жыцця» Сталін паказаны на экране як добры дзядуля, а яго прыспешнікі — як мілыя персанажы каляднай казкі.

Увогуле, адносіны да сталінізму — сёння ў СССР ключавое пытанне грамадскай самасвядомасці (і кінамастацтва — як адной з яго форм). І калі ў «Сэнсе жыцця» Сталін апалагетызуецца, то, скажам, у карціне ленінградца Уладзіміра Бартко «Аднойчы салгаўшы» героі гавораць пра былога «правадыра народаў» у самых зневажальных выразах. Праўда, тэмперамент не прыбаўляе гэтай размове філасофскай глыбіні. Упамінанне аб Сталіне тут не больш чым **знак** тэмы, аб якой сёння **дазволена** гаварыць. І тут мы падыходзім да яшчэ адной праблемы савецкага кіно. Гэта — неакан'юнктура.

Тое, што яшчэ нядаўна ігнаравалася афіцыёзнай прапагандай ці ў крайнім выпадку выдавалася за «нетыповыя з'явы», сёння стала прадметам самага шырокага абмеркавання ў прэсе, на радыё і тэлебачанні. Таму «зборны» сюжэт кінематографа часоў перабудовы абавязкова ўтрымлівае такія фігуры, як наркаман, рокер, прастытутка, мясцовы мафіёзі ці што-небудзь у гэтым родзе. Але, на жаль, за выключэннем некалькіх фільмаў (напрыклад, «Аса» Сяргея Салаўёва ці «Маленькая Вера» Васіля Пічула), экстрэмальныя фігуры сучаснага савецкага жыцця застаюцца ўсяго толькі плоскімі сілуэтамі, не здольнымі надаць творам маштаб мастацкага аналізу.

Знікненню дэфіцыту **новай** думкі не садзейнічаюць таксама і шматлікія радыкальныя маніфесты, з якімі сталі выступаць кінематаграфісты. І ў той час, як адны, я б сказаў, працуюць у жанры абяцанняў, іншыя — здымаюць **новае кіно.**

Менавіта да такога **новага кіно** варта аднесці карціну 44-гадовага рэжысёра Вадзіма Абдрашытава і 40-гадовага сцэнарыста Аляксандра Міндадзе «Слуга».

Нават у эпоху патрабуемай ад усіх жыццярадаснасці Абдрашытаў і Міндадзе задумваліся над пытаннем, праўдзівы адказ на якое ніяк не стымуляваў аптымізму: як засцерагчы чалавеку свой унутраны свет ад спакусы канфармізму? Тое ж, па сутнасці, пытанне хвалюе аўтараў і ў фільме «Слуга». І на гэты раз ніякіх суцяшальных рэцэптаў яны гледачу не прапаноўваюць.

Клюеў, герой фільма, які працуе асабістым шафёрам у буйнога дзеяча («гаспадар цэлага краю» — так ён сябе характарызуе), толькі спачатку спрабуе супраціўляцца дурману ўседазволенасці, якім яго абвалаквае шэф Гундзіёнаў — гэткі люцыфер у рацінавым паліто з каракулевым каўняром («уніформа апаратчыка»). Спакусніку, як ва ўсе часы, патрэбна адна плата — душа. І Клюеў становіцца рабом Гундзіёнава: дапамагаючы гаспадару ў яго барацьбе з ворагамі (такімі ж, напэўна, люцыферамі, толькі норавам слабейшымі), ён ідзе на шантаж, двурушніцтва, насілле і нават спробу забойства. Клюеў атрымлівае мянушку, якая цалкам адпавядае яго сутнасці, — Шакал.

Яны сустракаюцца праз дваццаць гадоў: Гундзіёнаў займае яшчэ больш высокую пасаду, а Клюеў, які, дзякуючы пратэкцыі гаспадара, пайшоў па музычнаму шляху, кіруе камерным хорам. Але яны засталіся самімі сабой. Гундзіёнаў па-ранейшаму амаральны і апантаны закулісная барацьбой з «ворагамі», а музыкант, як ні старайся, не ў стане пазбавіцца ад комплексу Шакала. І не дзіва: усё навокал, калі пакапацца, здабыта Клюевым цаной здрады, подласці. Нават раскошная віла, у якой асталяваўся ўдачлівы музыкант, — гэта, як высвятляецца, царскі падарунак гаспадара за тое, што слуга некалі ажаніўся з яго палюбоўніцай...

У псіхалагічных матывіроўках «Слугі», у яго сюжэце прачытваецца глыбінная сувязь з традыцыямі рускай прозы, і перш за ўсё Дастаеўскага (толькі сляпы не ўбачыць у фільме цені Смердзякова). Але матывы Дастаеўскага ў «Слузе» — гэта ні ў якім разе не эпігонства. Абдрашытаў і Міндадзе скарыстоўваюць інструментарый Дастаеўскага, бо ўпэўнены, што жыццё, якое акружае іх, не стала прасцейшым з часоў «Д'яблаў» ці «Братоў Карамазавых». І яно не такое ўжо бязвоблачнае ў сваёй перспектыве, як хочуць гэта паказаць «штатныя спевакі перабудовы» (якія яшчэ пяць гадоў назад, заўважым, услаўлялі зусім іншы сацыяльны клімат).

«Слуга» — гэта, па сутнасці, фільм двух выканаўцаў. І калі работа Юрыя Бяляева (Клюеў-Шакал) тэхнічная і месцамі не пазбаўлена натхнення, то Алег Барысаў (Гундзіёнаў) дэманструе сапраўды унікальныя пластычныя магчымасці; ён настолькі ўключаны ў вобраз, што мог бы абысціся і без слоў.

Карціна «Слуга» робіць уражанне шаравой маланкі, якая асвяціла экран успышкай мастацтва адухоўленага. Цвяроза ацэньваючы рэальнасць, называючы рэчы сваімі імёнамі, аўтары не схільныя здымаць абвінавачванняў і з саміх сябе. Грэх канфармізму ляжыць і на сумленні інтэлігенцыі — такі яшчэ адзін сэнс гэтай экраннай прытчы.

«Слугу» варта аднесці да разраду фільмаў не толькі для сёння ці для заўтра. Гэта карціна і для паслязаўтра.

На апошнім Міжнародным кінафестывалі ў Заходнім Берліне карціна «Слуга» ўдастоена прыза «За адкрыццё новых перспектыў у кінамастацтве», а таксама дыплома Евангелічнага журы — «За дыялектычнае абнаўленне тэмы Гаспадара і Раба, Віны і Сумлення».

**Барыс БЕРМАН.**

УСТАНОЎЧАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

## У ТРАДЫЦЫЯХ ДРУЖБЫ

Узбагачэнню духоўнага жыцця народа заклікаены актыўна садзейнічаць Фонд славянскай пісьменнасці і славянскіх культур. Яго ўстаноўчая канферэнцыя адбылася ў сакавіку ў Маскве.

Нараджэнне гэтай грамадскай арганізацыі звязана з традыцыйнымі святамі славянскай пісьменнасці і культуры, якія ў апошнія гады набылі сапраўды ўсесаюзны маштаб. Так, ва ўрачыстасцях, якія прайшлі ў мінулым годзе ў Ноўгарадзе, удзельнічалі дзеячы культуры і навукі Расіі, Украіны, Беларусі, Прыбалтыкі, Закаўказзя і Сярэдняй Азіі. Натуральна, што для правядзення такога маштабнага мерапрыемства неабходна штодзённая праца, якой і будзе займацца фонд. Разам з тым яму прадстаіць сур'ёзная дзейнасць па вывучэнню і прапагандзе моў, звычаяў, традыцый, гісторыі, пісьменнасці і культуры братніх народаў, супрацоўніцтве з славянскім насельніцтвам саюзных рэспублік і з суайчыннікамі за мяжой.

Удзельнікі канферэнцыі — вядомыя пісьменнікі, вучоныя, грамадскія дзеячы, прадстаўнікі працоўных калектываў, духавенства — выказалі ўпэўненасць у тым, што фонд стане рэальным сродкам умацавання міжнацыянальных адносін.

На канферэнцыі зацверджаны статут фонду, выбраны яго савет. Старшынёй савета стаў акадэмік М. Талстой, сустаршынямі — пісьменнікі В. Распуцін, Б. Алейнік, Н. Гілевіч.



**Пяць спектакляў прадставіў на суд гледачоў народны тэатр Маладзечанскага гарадскога Дома культуры. У іх ліку — «Дзеці сонца» М. Горкага, «Я стаю ля рэстарана» Э. Радзінскага і іншыя творы. Самадзейныя артысты спрабуюць свае сілы і ў класіцы, і ў п'есах сучасных аўтараў. Калектыў, які летась адзначыў сваё 25-годдзе, удастоены звання лаўрэата на Усесаюзных фестывалях, стаў дыпламантам міжнароднага конкурсу аматарскіх труп, што адбыўся ў ЧССР.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля «Дзеці сонца».**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**

## САБРАЛІСЯ Ў НОВЫМ ДВАРЫ

Камісія шэфства над вёскай Саюза кампазітараў БССР (кіруе камісіяй музыказнаўца Вера Сізко) ужо некалькі гадоў займаецца музычным выхаваннем школьнікаў. Хлапчукі і дзяўчаткі, што жывуць у вёсцы Новы Двор Мінскага раёна, неаднойчы бывалі на канцэртах і музычных спектаклях, самі вывучылі шмат твораў беларускіх кампазітараў, пасябравалі з калектывамі мастацкай самадзейнасці СШ № 150 горада Мінска і пачатковай школы вёскі Каралёў Стан.

Нядаўна юныя музыканты і іхнія прыхільнікі з усіх трох школ сабраліся ў Палацы культуры саўгаса «Рассвет», у Новым Двары, і наладзілі канцэрт.

*ЛЮБЫЯ СЭРЦУ МЯСЦІНЫ*

# БЫЛІНЫ БЕЛАГА ВОЗЕРА

Возера Балае — невялічкая блакітная кропля на карце нашага раёна, амаль ля самай граніцы з Украінай, у глыбіні вялікага Завышанскага лесу. Калі ўпершыню я туды трапіў, уразіла яркая бліскавіца яго берагавой лініі. Мільганула яна між залатых ствалоў стромкіх сосен і запомнілася на ўсё жыццё.

Многа пуцявін давялося мне прайсці. Якіх толькі азёр не бачыў! Цудоўныя яны, нічога не скажаш! Але варта прыехаць на Бацькаўшчыну — цягне да Белага. Можа таму, што яно роднае і блізкае з дзяцінства. Нездарма ж кажуць: усё, што звязана з ім — незабыўнае, самае дарагое і любае сэрцу.

Пра возера Белае, лясы, якія акружаюць яго, можна гаварыць многа. Я ж згадаю ўсяго некалькі гісторый.

### РЫБАЦКАЕ ШЧАСЦЕ

Спакусіў мяне сябар на рыбалку. Дамовіліся так: удзень ловім розную драбязу, а ўночы — канадскіх сомікаў.

Паставілі палатку — і на возера. Яно невялічкае. Глянеш насупраць сонца, і вада, здаецца, срэбрам расплаўленым залітая.

Гушкаемся на надзіманай лодцы. Сябар спінінгам па хвалях сцёбае, я — за паплаўком назіраю. Сябру шанцуе. Прайшла якая гадзіна, а на дне нашай лодкі падскокваюць некалькі шчупакоў. Адзін — амаль метровая пачвара з вялізнай пашчай і вострымі, бы іголкі, зубамі. І я не скарджуся: акунькі, плоткі клююць, нават залацісты лешч на кручок трапіў.

Пад вечар юшку зварылі. З перцам, цыбуляй, кропам — смачную. Падсілкаваліся і донкі на канадскіх сомікаў закінулі. Самі ля кастра паселі, слухаем ноч.

А яна зорная, ціхая. Віруе сваім жыццём.

Зусім побач на дзялянцы загухкала сава. У кустах ля вады валтузяцца, папіскваюць мышы. Нешта зашамацела. Аглядваемся: цераз сцяжынку вожык падаўся. Толькі бліснулі ў святле вогнішча яго чорныя вочкі.

Доўга не клявала. Мы ўжо і гукаў начных наслухаліся, і нагаварыліся. Калі б не цяпельца ды серабрысты масток месячнага бляску, што перакінуўся з таго берага да нашых ног, напэўна, заснулі б. Хацелі нават даставаць донкі, як званочак на адной ціхенька дзынькнуў.

Усхопліваемся разам, ледзь не збіваем адзін аднаго на коўзкім беразе. Лёска аж дрыжыць, перадае на руку ўдары моцнай рыбіны. Яна супраціўляецца, імкнецца забіцца пад карані, адарваць трайнік.

Змагаўся сомік мо хвілін пяць. Нам жа яны здаліся гадзінай. Парэзалі тонкай лёскай рукі, вымаклі, але калючага вусача выцягнулі. Паклалі ля кастра, любуемся.

Зусім, здаецца, звычайны, рачны сом. Толькі тры вострыя калючкі на галаве: дзве па баках і адна зверху тырчыць. Вось і ўся розніца, а называецца чамусьці — канадскі.

Нам пашчасціла: звычайна ў мясцовых азёрах гэтая рыба дробная, а наш — сапраўды волат. Вагі паказалі чатыры кілаграмы.

### ЛАСІ

У той год ва ўсім Завышанскім лесе забаранілі паляванне. Зіма ж выдалася суровая, снежная, завейная. Гэта яшчэ больш падкрэслівала ціш і спакой, што ўсталяваліся ў ваколіцах Белага возера. Ні табе стрэлу, ні шуму. Зрэдку пачуеш, як адгукнецца ў гушчары сварлівая сойка, падасць свой кароткі кліч дзяцел ды папіскваюць у вяршынях сосен драбнюткія каралькі.

Звяры і птушкі адразу ацанілі гэтую ціш. Знаёмыя леснікі дзівіліся, адкуль іх столькі набралася. Дзікі, казулі, ласі... Раней нават у лепшыя гады не было ля Белага возера столькі звяроў. Ласі дык ходзяць статкамі, нікога не баяцца.

(Заканчэнне на 8-й стар.).





# ЗАПРАШАЕМ УСІХ НА БАЛЬ

**Бальныя танцы ў многіх міжволі асацыіруюцца з дарэвалюцыйнымі ўрачыстасцямі багацеяў, якія надзявалі дарагія ўборы і якія ўмелі, у адрозненне ад большасці з нас, свабодна і прыгожа рухацца. Доўгі час бытаваў пункт погляду, што ў нашым жыцці такім «непрыстойнасцям» не павінна быць месца. Няхай, маўляў, буржуі шалеюць з раскошы, танцуючы ў фраках або і зусім з голымі спінамі. Але аказалася, што ў нас нямала жадаючых з захапленнем танцаваць «чужыя нам» танцы або хоць бы атрымліваць асалоду, гледзячы, як гэта робяць іншыя.**

**А прыцягвае людзей тое, што танцы гэтыя намнога прыгажэйшыя, больш эстэтычныя і ўзвышаныя, чым няўмелае аднастайнае тузанне на дыскатэках пад аглушальны рок або прымітыўную пап-мелодыю. Ці варта здзіўляцца, што пакуль у Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета БССР праходзіў міжнародны конкурс выканаўцаў бальнага танца на прыз часопіса ЦК ВЛКСМ «Парус», свабодных месцаў у глядзельнай зале не было, а большую частку аўдыторыі складала моладзь.**

**Конкурс, які праводзіўся ўжо трэці раз, можна лічыць традыцыйным, хоць цяпер у ім было нямала новага. Па-першае, значна расшырылася геаграфія ўдзельнікаў — 17 гарадоў Савецкага Саюза плюс Аўстрыя, Балгарыя, Вялікабрытанія, Заходні Берлін, Польшча і Фінляндыя. Па-другое, змяніўся статус турніру—з сёлетняга года ён унесены ў міжнародны рэестр. А паглядзець на конкурсе сапраўды было на што—гэта аднадушная думка ўсіх гасцей. Як адзначыў у гутарцы з журналістам Морыс Тэйт, член журы, кіраўнік дэлегацыі з горада-пабраціма Мінска Нотынгема, конкурс прайшоў на высокім узроўні, і няўдача дзвюх англійскіх пар, якія не змаглі трапіць нават у фінал, — пацвярджэнне гэтаму.**

**— Мы ўбачылі нямала добрых танцораў,— сказаў Тэйт,— і спадзяёмся, што яны змогуць прыняць удзел у турніры гарадоў-пабрацімаў Нотынгема, які мы маем намер правесці ў будучым годзе. Пісьмо з запрашэннем мінчан на спаборніцтва мы перадалі прадстаўнікам гарвыканкома.**

**Жаданне развіваць творчыя кантакты выказаў і кіраўнік заходнеберлінскай дэлегацыі Эрых Ферстэр. Дарэчы, менавіта пара з Заходняга Берліна — Карнелія Штэрнке і Аксель Хунгер — заваявала галоўны прыз конкурсу. Сярод пераможцаў — Сабіна Лапса і Арніс Лешынскіс з Рыгі, Крысціна і Раўна Іла з Таліна. З мінчан лепшымі былі ўладальнікі прыза 1987 года Алена і Юрый Царовы, якія занялі чацвёртае месца ў еўрапейскай праграме і трэцяе — у лацінаамерыканскай.**

**І. ШЧОГАЛЕЎ.**

**НА ЗДЫМКАХ: адкрыццё міжнароднага конкурсу бальных танцаў у Мінску; пераможцы па праграме еўрапейскіх танцаў Крысціна і Раўна ІЛА; Алена і Юрый ЦАРОВЫ; фрагмент выступлення.**





# БЫЛІНЫ БЕЛАГА ВОЗЕРА

(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).

Дзіваваліся і мясцовыя жыхары. А старэйшыя тлумачылі: наўкола страляюць, ганяюць звяроў, тыя і знайшлі спакойнае месца. З усёй акругі сабраліся.

Ціхая радасць пасялілася ў вёсках. Толькі і гаворкі ў людных мясцінах, што аб цікавых сустрэчах на лясных сцяжынках...

Вырашыў пашукаць такога спаткання і я. Разам з братам, каб было весялей, рушылі да Белага возера. Паўдня месім снег, змарыліся, але нічога, акрамя свежых і даўніх слядоў, не ўбачылі.

Пад вечар лес зашумеў. З шолахам і трэскам загойдаліся вяршыні дрэў. Спачатку рэдка, а пасля гусцей і гусцей пасыпаліся вялікія сняжынкі. Сляды пазаносіла, раўнюткая белая коўдра рассцілалася між дрэў.

Час вяртацца, але не хочацца. Брыдзём па канаве, што на дзве часткі разрэзала забалочаны беразнячок непадалёку ад возера.

Трэснула галінка. Спыніліся. Трымціць у чаканні сэрца. А тут сярод белых стваloў мільганула цёмная постаць. На палянку паважна выступіў стары лось. На фоне бяроз, мітуслівай гульні сняжынак ён здаецца чорным волатам. Тым часам з гушчару прадраўся, стаў побач яшчэ адзін, малады.

Убачыўшы нас, звяры адным махам пераскочылі канаву і зніклі ў густым сасновым падлеску, за снежнай смугой.

### ЗАСАДА

Неяк у лістападзе паехаў я з братам на фотапаляванне. Дзень слотны, аблокі сеюць лёгкую імжу-пыл.

Цецерукоў заўважылі на азіміне здалёк. Прыпыніліся. Але тыя, відаць, «стралянымі» аказаліся: дружна ўзняліся і пераляцелі бліжэй да кустоў. Прыкінулі мы, што і да чаго, і вырашылі абхітрыць птушак. Загналі матацыкл у лес. Адтуль канава поле перараэзае, якраз тое, дзе цецерукі паселі.

— Паўзі, — кажу брату,— па канаве. А я кустамі бліжэй да іх падбяруся. Як спудзіш птушак, хоць у палёце іх сфатаграфую.

Подбегам, сагнуўшыся, пераскочыў я той астравок. Выпаўз да крайняга куста,назіраю. Далекавата цецерукі. Ды што зробіш! Сяджу, як у засадзе.

Далей не шанцавала. Не дапоўз брат да таго месца, выглянуў з канавы. Цецерукі — фыр-р-р-р — узляцелі і, абмінуўшы мае кусты, селі з другога боку астраўка.

«Ну, — думаю, — там вы ад мяне нікуды не дзенецеся».

Хапаю фотаружжо і бягу праз калючы гушчар. Толькі зрабіў некалькі крокаў, як з-пад куста выслізнула нешта вялікае і шэрае. Адразу і не ўцяміў, што гэта воўк. Спрабую сфатаграфаваць, шчоўкаю фотаапаратам. Дзе там! Кусты густыя, у аб'ектыве ўсё расплываецца.

Імчу наўздагон. Там — поле, можа, атрымаецца здымак. А воўк — круць і знік дзесьці ў хмызняку. Я туды, я сюды — няма.

А тут брат гукае: «Дзе ты там падзеўся? Тут такі ваўчына праімчаў!»

Агледзелі мы потым месца, адкуль выскачыў воўк. Аказваецца, я поўз ад яго за пяць крокаў. Чуў ён мяне. Трашчалі ж пад локцямі ды каленямі сухія галінкі, ды і вецер пах чалавека якраз на яго адносіў. Але ж чакаў ваўчына, пакуль я не папёр проста на яго. Ці можа, пакуль я ў засадзе на цецерукоў сядзеў, воўк да мяне падкрадаўся?

**Васіль ЖУШМА.**

## спорт

Футбол, лёгкая атлетыка, веласіпедныя гонкі і... лыжы. Так, на поўначы краіны толькі што завяршылі зімні сезон лыжнікі. На першынстве СССР вызначыліся прадстаўнікі нашай рэспублікі. У Апацітах мінчанка Святлана Камоцкая заваявала залаты медаль у каманднай гонцы на дыстанцыі 20 кіламетраў.

Добра пачалі сезон лёгкаатлеткі Савецкага Саюза. На розыгрышы Кубка свету ў марафонскім бегу, які прайшоў у Рыме, І. Ягодзіна з Днепрапятроўска, В. Ягорава з Чэбаксараў і мінчанка К. Храмянкова апярэдзілі ўсіх сваіх саперніц.

Ужо вядомы месцы і час правядзення турніраў «Масцерс» па фехтаванню для васьмі лепшых спартсменаў свету ў кожным відзе зброі. 27 мая барацьбу павядуць рапірысты. Тут нашу краіну будзе прадстаўляць пяціразовы чэмпіён свету мінчанін Аляксандр Раманькоў.

Яго зямлячка алімпійская чэмпіёнка Святлана Багінская — кандыдат на паездку на першынство Еўропы па спартыўнай гімнастыцы, якое хутка адкрыецца ў Швецыі.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

## НАШ АДРАС:

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Індэкс 63854. Зак. 473